

# Полацкая ініцыятыва

№ 2, ЖНІВЕНЬ–КАСТРЫЧНІК, 1998

## “Вяртаньне назову”

**НАЗВЫ ВУЛІЦ - НЕАД’ЕМНАЯ ЧАСТКА ГІСТАРЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ ЛЮБОГА ГОРАДА. ПОЛАЦАК ЗА СВАЮ ГІСТОРЫЮ ШМАТ РАЗОЎ ЦАЛКАМ РУЙНАВАЎСЯ. АДНАК ЗНОЎ І ЗНОЎ АДБУДОЎВАЎСЯ.**

Кірункі вуліцаў, як сьцежкі пры вёсцы, узьнікалі як бы стыхійна, бо ў старажытныя гады ніякіх архітэктурных плянаў забудовы не рабілася. Людзі сяліліся або ў рамесьніцкай слабадзе, або пры шляхох, якія вялі ў цэнтар горада да рынку. Уздоўж дарог будаваліся шынкі, пастаялыя двары, усё тое, што патрэбна падарожнаму, пераважна гандлёвым людзям. Таму вуліцы часта называліся ў залежнасьці ад таго, хто на іх жыў (Стралецкая, Шавецкая, Яўрэйская), альбо ад назвы шляха, на які выходзіла вуліца (Віленская, Рыская, Віцебская, Нэвельская), альбо куды яна вяла ці які храм на ёй знаходзіўся (Спасаўская, Крапасная, Верхнепакроўская, Старавакзальная). Такім чынам, шмат аб чым могуць расказаць старыя назвы. Хто жыў у горадзе, якія былі рамесьніцкія цэхі, зь якімі краямі былі добрыя сувязі, якія храмы тут знаходзіліся (калі яны не захаваліся), якім таварам гандляваў горад і г.д.

Полацак за савецкім часам цалкам згубіў сваю гістарычную тапаніміку. Такім чынам, ён як бы страціў сваю гісторыю. Горад пазбавіўся ня толькі старажытнай гісторыі, але, па вялікім рахунку, і гісторыі XX стагодзьдзя. Бо ніякія Сьвярдловы, Фрунзы, Бедзёныя, Арджанікідзы, Карлы Марксы ня маюць аніякага дачыньня да гісторыі Полацка. Яны нічога не раскажуць пра горад, не засьведчуць аб яго значнасьці, адметнасьці.

Шматлікія спробы грамадзкасьці, скіраваныя на вяртаньне старажытнай тапанімікі гораду, сканчваюцца безвынікова.

10 верасьня грамадзкае аб’яднаньне “Полацкая ініцыятыва” правяло на вуліцы Дзяржынскага (у Задзьвіньні) культурніцкую акцыю “Вяртаньне назову”. Імпрэзу пачаў пісьменьнік Алесь Аркуш. Ён сказаў, што патрыёты горада павінны пачаць працэс вяртаньня назваў старых вуліц найперш у сваёй сьвядомасьці. Старая інтэлігенцыя Санкт-Пецярбурга ніколі не называла свой горад Ленінградам. Напэўна, таму вяртаньне назвы горада адбылося.

Песьню “Па дарозе зь Вільні на Полацак” прасьпявала полацкая паэтка-бард Лера Сом, яна выканала свой стары твор невыпадкова, бо раней гэтая вуліца выходзіла на шлях, па якому падарожныя дабіраліся да Вільні: яна так і называлася - “Віленская”. Песьня “Па дарозе зь Вільні на Полацак” стала шырока вядомай у Беларусі. У свой рэпэртуар яе ўключыў гомельскі бард Андрэй Мельнікаў.

Алесь Аркуш прачытаў соц-артаўскі верш “Ломдзяржынскі”. Міхась Баўтовіч расказаў пра захады грамадзкасьці па вяртаньні старажытных полацкіх назваў вуліц, - яны робяцца ўжо на працягу дзесяці гадоў. Да аднаго з дамоў вуліцы ўдзельнікі акцыі прымацавалі сымбалічную шыльду “Віленская”. У імпрэзе прымалі ўдзел жыхары вуліцы. Некаторыя зь іх сфатаграфаваліся разам з сябрамі “Полацкай ініцыятывы” ля шыльды на памяць.

**ТАЦЯНА КОЗІК.**



Сьвята ў Спаса-Эўфрасіньнеўскім манастыры. УЛАДЗІМЕР БАЗАН




## ПА ДАРОЗЕ ЗЬ ВІЛЬНІ НА ПОЛАЦАК

Лера СОМ

Па дарозе зь Вільні на Полацак
Уцякаем ад навальніцы...
Нам маланкі б’юць наўздагонкі,
Нам грамы разьдзіраюць вушы...
Па дарозе з Вільні на Полацак,
Са сталіцы і да сталіцы,
Мкнуцца нашыя абалонкі
Ненадзейны прытулак душаў.

Па дарозе зь Вільні на Полацак
Шаты дрэваў, крыжы і дахі:
Часткі вечнага краявіду,
Непаўторныя і ў падобным...

Па дарозе зь Вільні на Полацак
Адыходзяць начныя жахі,
Тыя, што працінаюць дзідай
Розум хіжы і самаробны.

Па дарозе зь Вільні на Полацак
Нам заўсёды імчацца дадзена...
Можа, нехта за нас памоліцца,
Да дзівацкіх учынкаў схільны...
А дарога зь Вільні на Полацак —
Вось адзінае, што ня скрадзена...
Нам ня трапіць ніколі ў Полацак,
Нам ніколі ня ўбачыць Вільню.

## ТАВАРЫСТВА ВОЛЬНЫХ ЛІТАРАТАРАЎ

пачынае новы кніжны праект.
Кніжную сэрыю

***«Проза пераходнага пэрыяду»***

адкрые кніга Вінцэся Мудрова “Іду на таран!”.
У зборнік увойдуць тры невялікія аповесьці: “Рыбалка ў Бычках”, “Іду на таран!” і “Зімовыя сны”.
Для сэрыі падрыхтаваныя кнігі Ігара Сідарука, Алеся Аркуша, Юрыя Гуменюка, Уладзімера Лобача.

## ПРА ПЛАНЫ, МАРЫ І СПАДЗЯВАНЬНІ

**6 ВЕРАСЬНЯ Ў РАМКАХ ГАРАДЗКІХ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ ДНЯ ПІСЬМЕННАСЬЦІ Ў ПОЛАЦКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ АДБЫЛАСЯ ПРЭЗЭНТАЦЫЯ ПЕРШАГА НУМАРУ БЮЛЕТЭНЯ “ПОЛАЦКАЯ ІНІЦЫЯТЫВА”.**

Рэдактар газэты Алесь Аркуш расказаў пра мэты і пляны выданьня. Ён перакананы, што без грамадзкай ініцыятывы горад няздольны вярнуць свае найлепшыя традыцыі, адчуць сваю адметнасьць і значнасьць у гісторыі Беларусі, актывізаваць паўнакроўнае культурніцкае жыцьцё. Гэта трэба людзям, якія тут жывуць, - яны і павінны самі выканаць сур’ёзную, вялікую працу. Міхась Баўтовіч выказаў думку, што “Полацкая ініцыятыва”, - і ён у гэтым перакананы, - пасірыяе нараджэньню і рэалізацыі іншых мясцовых культурных праектаў, у тым ліку і ў кірунку аднаўленьня гістарычнай спадчыны роднага гораду.

Яшчэ адзін сябра рэдакцыйнай калегіі, мастачка Тацяна Козік спадзяецца, што да працы над выданьнем падключацца новыя людзі і газэта набудзе шырокае кола аўтараў. Выдаўцы бюлетэню адказалі на пытаньні ўдзельнікаў сустрэчы. Супрацоўнікі бібліятэкі ў сваю чаргу паведамілі, што газэта выклікала цікавасьць у грамадзкасьці горада, падобнага выданьня даўно не хапае старажытнаму Полацку і яны будуць актыўна папулярызаваць “Полацкую ініцыятыву” сярод сваіх чытачоў.

**ВАСІЛЬ КРОКВА.**

# ПЕРШАЯ ПРЫСТУПКА ДА МАРТЫРАЛЁГУ

Неяк можа ў гадох 1991-92 у адным з нумароў газэты "Літаратура і мастацтва" натрапіў на абвестку, у якой група энтузіястаў абвяшчала аб зборы матар'ялаў пра загінуўшыя архітэктурныя помнікі з мэтаю абагульненьня й выданьня "Белае кнігі". Пазьней, як уважліва не праглядаў прэсу, нідзе не сустрэў згадкі пра рэалізацыю гэтага праекту, але працягваў спадзявацца, што пабачу архітэктурны мартыралёг. Мо таму, угледзеўшы сёлета ў кнігарні кніжку "Страчаная спадчына", адразу ухапіўся за яе і стаў прагна гартаць. Тут неабходна адзначыць, што гэтая кніга ня ёсьць поўным зборам матар'ялаў тэкставых і графічных пра паншчаныя помнікі, гэта толькі прыступка да тае вялікае працы. Як на маю думку, дык зьмяшчае кніга блізу пяці адсоткаў ад страчанага. Падцьвяржае гэта, дарэчы, і сама укладальніца сп. Т.Габрусь у прадмове, пішучы пра адбор "найбольш характэрных помнікаў". Таму пытаньне паўнаты працы перад намі не паўстае. Таксама кніга ня ёсьць калектыўнаю працай, хаця на тытуловым аркушу пазначаныя пяць прозьвішчаў, — хутчэй зборы твораў розных дасьледнікаў, зь якіх кожны ўрабляе сваю дзялку. Натуральна, што ў гэтым выпадку мусім разглядаць кожны разьдзел асобна. Першы разьдзел, які ёсьць вытрымкаю з працаў сьветлае памяці сп.Міхася Ткачова, выдадзеных яшчэ пры жыцьці аўтара, выкладзены сьцісла й грунтоўна. Заўвагу выклікае адбор нарысаў.

(Працяг на 4-й стар.)

АЛЕСЬ КОЗІК

# ПІСЬМЕНЬНІК, ТВОРЫ ЯКОГА ЧАКАЮЦЬ

**25 ВЕРАСЬНЯ Ў НАВАПОЛАЦКІМ ЛІЦЭІ АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА ЗЬ ВЯДОМЫМ БЕЛАРУСКІМ ПІСЬМЕНЬНІКАМ, ЗЕМЛЯКОМ ЛІЦЭІСТАЎ УЛАДЗІМЕРАМ АРЛОВЫМ. ЗАПРАСІЛА Ў ГОСЬЦІ НА ПЕРШАЕ ПАСЕДЖАНЬНЕ ГІСТАРЫЧНАГА КЛЮБУ, - ЁН АБ'ЯДНАЎ ШКОЛЬНІКАЎ, ЯКІЯ МАЮЦЬ СПЭЦЫЯЛІЗАЦЫЮ "ГІСТОРЫЯ", - ВЫКЛАДЧЫЦА ЛІЦЭЮ ВАЛЯНЦІНА МІЛАШ.**

Уладзімера Арлова прадставіў вучням калега па літаратурнаму цэху пісьменнік Алесь Аркуш. Ён згадаў пра дзейнасьць літ.аб'яднаньня "Крыніцы" пры наваполацкай гарадзкой газэце "Химик", якое ў другой палове 80-х узначальваў Арлоў. Гэта быў "зорны" час аб'яднаньня. Яго паседжаньні наведвалі дзесяткі творчых людзей, палову зь якіх добра ведала ўся Беларусь (Сяржук Сокалаў-Воюш, Лявон Баршчэўскі, Ірэна Жарнасек, Навум Гальпяровіч, Вінцэсь Мудроў, Валянціна Аксак, Лявон Неўдах, Лера Сом, Якуб Лапатка, Іна Снарская і іншыя), амаль на кожнае паседжаньне прыязджалі цікавыя госьці з іншых беларускіх гарадоў, найчасьцей са сталіцы. Аўтарытэт тагачасных "Крыніцаў" было безумоўна, напрасткі зьвязаны з аўтарытэтам кіраўніка аб'яднаньня.

Уладзімер Арлоў у сваім слове расказаў пра свае дзіцячыя гады ў Полацку, пра кнігі, якія выдаў, пра пляны і новыя творы. У ліцэістаў было шмат пытаньняў да вядомага пісьменьніка, таму прыкладна палову сустрэчы Арлоў адказваў на іх. Найперш будучых гісторыкаў цікавіла гісторыя Полаччыны. Як вядома, Арлоў па адукацыі гісторык, скончыў гістфак БДУ, і значная частка яго твораў прысьвечана айчыннай гісторыі. Таму пісьменьнік адказваў на пытаньні сур'ёзна і грунтоўна. Адну слухачку зацікавіла: з кім з гістарычных асобаў Беларусі пісьменьнік захацеў бы сустрэцца і ў якім гістарычным часе апынуцца. Арлоў зазначыў, што, напэўна, карысна было б сустрэцца з канцлерам Вялікага Княства Літоўскага Львам Сапегам; адносна гістарычнага часу - з цікавасьцю патрапіў бы ў Полацак у час наведваньня места расейскай імпэратрыцай Кацярынай II, на пытаньне, чаму?, дадаў - ніядаўна напісаў апавяданьне пра тыя падзеі "Каханак яе вялікасьці", таму хацеў бы ўдакладніць, наколькі праўдзіва ён апісаў тыя дні. Пытаньні датычыліся й сучасных падзяў у беларускім грамадзтве. На іх пісьменьнік адказваў з сумам і з затоенай надзеяй, што лепшыя часы Беларусі ўсё ж не схаваныя за гарамі і цёмнымі лясамі.

Напрыканцы сустрэчы пісьменьнік раздаваў аўтографы, адказваў на прыватныя пытаньні, абяцаў яшчэ раз наведацца на адно з паседжаньняў гістарычнага клюбу.

**ВАСІЛЬ КРОКВА.**

# У ГОНАР БРАТОЎ-БАЗЫЛЬЯНАЎ

**СЬПЯКОТНЫМ РАНКАМ 22 ЛІПЕНЯ АД МЕЙСЦА СЬМЕРЦІ СЬВ. ЯЗАФАТА - ВІЦЕБСКАЙ УСЬПЕНСКАЙ ГОРЦЫ, У ПОЛАЦАК ВЫПРАВІЛАСЯ ГРУПА ГРЭКА-КАТАЛІЦКІХ ПІЛІГРЫМАЎ. ЛАДЗІЛАСЯ ПІЛІГРЫМКА Ў ПАМЯЦЬ ПЯЦЁХ МАНАХАЎ-БАЗЫЛЬЯНАЎ, БЯЗЬВІННА ЗАБІТЫХ У 1705 ГОДЗЕ РАСЕЙСКІМ ЦАРОМ ПЯТРОМ ПЕРШЫМ І ЯГОНЫМІ СЛУЖКАМІ.**

Яе ўдзельнікі прайшлі пехам 130 кілямэтраў і ў прызначаны час, пасьля чатырох дзён вандроўкі, дапялі канцовага пункту выправы — мурoў полацкага Сафійскага сабору, дзе іх сустрэлі сябры і суродзічы. Напачатку зь Віцебску выйшлі дванаццаць вернікаў, а ў Гаранах, за 18 кілямэтраў ад Полацка, да іх далучыліся яшчэ пяцёра. Пілігрымы ня проста ішлі да мейсца пакутаў братоў-базыльянаў, але амаль у кожнай падарожнай вёсцы сустракаліся з людзьмі, апавядалі ім пра Берасьцейскую царкоўную вунію, ладзілі духовыя сьпевы, а ераманах айцец Пахом, які таксама ішоў зь вернікамі, праводзіў катэхізацыю моладзі. Слухачы імправізаваных сустрэчаў прыязна ставіліся да пілігрымаў і шчыра цікавіліся гісторыяй грэка-каталіцкай царквы. У вадрозненьне ад мінулых гадоў прыязна паставілася да вернікаў і ўлада, а падчас аднаго з пастояў — у вёсцы Нікіціха, сон удзельнікі пілігрымкі ўсю ноч пільнаваў мяйсцовы ўчастковы.

У полацкім прадмесьці Струньня, дзе за даўнім часам месьцілася рэзыдэнцыя уніяцкіх мітрапалітаў і дзе ў гонар 400-тых угодкаў Берасьцейскай вуніі быў усталяваны памятны Крыж, удзельнікі пілігрымкі адправілі паніхіду ў памяць бязьвінна забітых манахаў, а ля муроў Сафіі — мейсцы, дзе браты-базыльяны прынялі пакутніцкую сьмерць — учынілі агульную малітву за Беларускі народ.

Ну а наступным днём удзельнікі пілігрымкі сабраліся ў полацкім Барысаглебаўскім манастыры, каб супольна адзначыць Дзень сьвятых Барыса і Глеба. Дзень гэты адзначаецца ў Полацку асабліва ўрачыста, бо мяйсцовы манастыр носіць імя першых усходнеславянскіх сьвятых.

На сьвята да палачанаў прыехалі іх духовыя спакрэвічы з Віцебску, Магілеву, Менску, сярод гасьцей быў і апостальскі візытатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек. Зьвяртаючыся да прысутных гэты высокі дастойнік павіншаваў аднаверцаў са сьвятам і перадаў ім прывітаньне ад кіраўніцтва кангрэгацыі ўсходніх цэркваў у Рыме. Урачыстае набажэнства ў гонар славянскіх сьвятых адбылася ў сьценах царкве сьв. Параскевы Полацкай і адпраўляў яго, з дапамогаю двух дыяканаў, айцец Пахом.

**ВІНЦЭСЬ МУДРОЎ.**

# Працяг традыцыі "Полацкага Штомесячніка"

**У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ 90-Х ГАДОЎ НА ПОЛАЧЧЫНЕ ПАЧАЛІ АКТЫЎНА ЗЬЯЎЛЯЦЦА НОВЫЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ, НАВУКОВЫЯ І ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ. ГЭТЫ КУЛЬТУРНЫ ПРАЦЭС МАЕ СВАЕ ГІСТАРЫЧНЫЯ КАРАНІ. ПЕРШЫ ЧАСОПІС НА СУЧАСНЫМ АБШАРЫ БЕЛАРУСІ ВЫЙШАЎ У ПОЛАЦКУ Ў 1818 ГОДЗЕ. ДРУКАВАЎСЯ ЁН НА ПОЛЬСКАЙ МОВЕ, НАЛЕЖЫЎ ПОЛАЦКАЙ ЕЗУІЦКАЙ АКАДЭМІІ І НАЗЫВАЎСЯ "ПОЛАЦКІ ШТОМЕСЯЧНІК" ("MIESIECZNIK POLOCKI"). ЗАСНАВАЛЬНІКАМ ЧАСОПІСА БЫЎ ФІЛЁЗАФ ВІНЦЭНТЫ БУЧЫНСКІ, АДКАЗНЫМ РЭДАКТАРАМ ПРАФЭСАР ФІЗЫКІ І ДОКТАР ФІЛЯЗОФІІ ЮЗАФ ЦЫТОВІЧ. "ПОЛАЦКІ ШТОМЕСЯЧНІК" МЕЎ ШЭСЦЬ АДЗЬДЗЕЛАЎ: ЛІТАРАТУРНЫ І ВОЛЬНЫХ НАВУК, МАРАЛЬНА-ФІЛЯЗОФСКІ, ФІЗЫКА-МАТЭМАТЫЧНЫ, ГІСТАРЫЧНЫ, КРЫТЫКІ І ЛІТАРАТУРНЫХ НАВІНАЎ. У 1818 ГОДЗЕ ВЫЙШЛІ ТРЫ ТОЎСТЫЯ ТАМЫ ШТОМЕСЯЧНІКА, ПЕРШЫ НАЛІЧВАЎ 508, ДРУГІ — 506, ТРЭЦІ — 512 СТАРОНАК. У ПРАДМОВЕ ДА ПЕРШАГА НУМАРУ ЧАСОПІСА ВЫДАЎЦЫ СЬЦВЯРДЖАЛІ: "ПРА ТОЕ, ЯКАЯ КАРЫСЬЦЬ З ДРУКАВАНЫХ ПЭРЫЯДЫЧНЫХ ЛІТАРАТУРНЫХ ЧАСОПІСАЎ ЗЫХОДЗІЦЬ НА КРАІНУ, НАВУКУ І ЗВЫЧАІ, МЫ ДАВЕДАЕМСЯ НАЙПЕРШ З ТАГО, ШТО ТАКАЯ ПРАКТЫКА ЎЖЫВАЕЦЦА ВА ЎСІХ КРАІНАХ, ДЗЕ ЎРАДЫ ПРАЯЎЛЯЮЦЬ КЛОПАТ ПРА ДАБРО ПАДДАНЫХ І ДАБРО НАВУКІ."**

У гэтым жа нумары рэдакцыя выданьня акрэсьліла галоўныя напрамкі сваёй дзейнасьці:"І. Літаратура і вольныя навукі. Тут будуць зьмяшчацца тлумачэньні ды інтэрпрэтацыі правілаў розных родаў паэзіі і мовы. Арыгінальныя вершы і пераклады. Насьледаваньні выдатным пісьменьнікам, параўнаньні розных твораў, асабліва старажытных і сучасных. Публікацыі і прамовы з крытычным аналізам, аповесьці, разважаньні аб прыгожым, багатым і моцным. ІІ. Маральна-філязофскія. Выдаўцы штомесячніка асьмельваюцца запэўніць, што зьмяшчаючы філязофскія рэчы, будуць кіравацца тым, каб былі яны карыснымі і даступнымі для чытача. ІІІ. Фізыка-матэматычныя. Тут выдаўцы будуць мець магчымасць прадставіць тое, што адносіцца да новых поглядаў, вынаходніцтваў і доследаў, карысных для хіміі і фізыкі. ІУ. Гісторыя. Тут будуць зьмяшчацца дасьледаваньні пра тыя зьявы, што трактуюцца як гіпатэтычныя. Імкненьне да карэктаваньня гістарычных памылак, асабліва тых, якія абражаюць і шкодзяць сьвятасьці рэлігіі і звычаяў або імкнуцца паменшыць нацыянальную славу. У. Крытычны аналіз. Шчасьлівыя чужаземцы, асабліва французы, якія нас апярэдзілі і зрабілі тое, што амаль кожны іх твор абмеркаваны і ўсе яго недахопы і добрыя бакі паказаны публіцы. Адсюль людзі чэрпаюць зьвесткі, дзякуючы якім пазьбягаюць тых недахопаў, што мелі месца раней. УІ. Літаратурныя навіны — напрыклад, аб сьмерці тых, хто праславіў навуку, аб навуковых таварыствах, акадэміях і ўнівэрсытэтах, аб іх уладкаваньні, законах, паседжаньнях, узнагародах, праграмах, аб дасьледаваньнях, якія апублікаваны ўжо або падрыхтаваны да друку."

Як бачым, абсяг тэмаў публікацый часопіса быў досыць шырокі. Аўтарамі выступалі пераважна выкладчыкі акадэміі і яе навучэнцы. Значнае месца на старонках "Полацкага Штомесячніка" займала паэзія. Апублікаваныя вершы падпісваліся пераважна ініцыяламі альбо ўвогуле друкаваліся ананімна. На старонках часопіса зьяўляліся таксама пераклады хрэстаматыйных твораў, напрыклад, трагедыі Эўрыпіда "Арэст", якую пераклаў віцяблянін Ян Міrановіч. Цікавасьць у сучасных гісторыкаў выкліча матар'ял "Кароткая інфармацыя аб горадзе Полацку", якая з працягам друкавалася ў першым, другім і трэцім тамах штомесячніка. Невядомы аўтар артыкула прыводзіць вельмі вялікую колькасьць геаграфічных, гістарычных, сацыяльных, нацыянальных і эканамічных фактаў. Тут можна даведацца аб гісторыі горада, аб звычаях яго насельніцтва, аб гандлёвых промыслах края. Сярод "камэрцыйнай" інфармацыі, напрыклад, такая: вядро піва ў Полацку каштавала рубель 60 капеек, вядро "сакавіцкага" піва — 4 рублі, вядро гарэлкі — 12 рублёў 40 капеек, а вядро мёду — усяго 9 рублёў 60 капеек. У горадзе тры разы на тыдзень адбываліся кірмашы: у сераду, пятніцу, нядзелю. Апрача звычайных прадуктаў і мясцовых вырабаў гандлявалі тут таксама імпартным таварам: дарагімі сукенкамі, цукрам, кавай, віном, парцалянай. Бадай, як на сёньняшнім Полацкім базары. Аўтар досыць падрабязна апісвае пладовыя сады, вуліцы, гасьцінцы, паведамляе аб шырыні і глыбіні рэчак, якасьці вады, відах рыб. З дванаццаці вялікіх полацкіх вуліц толькі тры былі брукаваныя. Праз горад праходзіла тры паштовыя гасьцінцы (пецярбурскі, рыскі ды вецебска-магілеўскі) і пяць купецкіх: віленскі, лепельскі і бешанковіцкі на левым баку Дзьвіны, дзісьненскі з нэвельскім — на правым. У тагачасным Полацку існавалі наступныя дабрачынныя ўстановы: сэмінарыя, дом для бедных жанчын і два шпіталі — адзін з іх утрымлівалі езуіты, другі існаваў пры саборнай уніяцкай царкве. Абодва шпіталі добра забясьпечваліся санітарнымі сродкамі і лекамі.

У 1819 годзе "Полацкі Штомесячнік" не выдаваўся. Праз год выйшаў чацвёрты і апошні нумар часопіса. Як сьцьвярджаюць некаторыя дасьледчыкі, напрыклад Аляксандар Баршчэўскі з Варшавы, прычынай спыненьня выхаду выданьня хутчэй за ўсё сталіся фінансавыя цяжкасьці. У сярэдзіне XIX стагодзьдзя польскамоўныя літаратары Полаччыны і Віцебшчыны друкаваліся ў "Tygodniku Petersburskim", "Niezabudkie", "Roczniku Literackim" (Пецярбург), "Rubonie" (Вільня), якія выдавалі Рамуальд Падбярэскі, выхаванец Полацкай езуіцкай акадэміі Ян Баршчэўскі і Казімер Буйніцкі. Пасьля нацыянальна-вызвольных паўстаньняў у Польшчы, Летуве і Беларусі царскі ўрад пачаў праводзіць рэакцыйную палітыку ў адносінах да сваіх заходніх ускраінаў, былі зачынены шэраг навучальных ўстаноў, перасьледвалася любая культурніцкая дзейнасьць "іншародцаў" (за выдавецкую дзейнасьць былі пакараныя і Падбярэскі, і Баршчэўскі), адмысловым загадам цара забаранялася ўжываць слова "Беларусь". Як вынік гэтага ціску на рэгіянальнае культурнае жыццё пачала згортвацца выдавецкая дзейнасьць і ў Полацку. Цалкам спынілася яна ў савецкія часы. Аднаўленьне мяйсцовага незалежнага друку пачынаецца ў 1971 годзе, калі наваполацкія студэнты пачалі выпускаць рукапісны часопіс "Блакітны ліхтар". У 1990 годзе ў Наваполацку нарадзіўся літаратурны альманах "Ксэракс Беларускі", праз тры гады выйшаў першы нумар часопіса "Калосьсе", у 1996-м зьявіўся часопіс "Край" - ворган Полацка-Глыбоцкай філіі Саюза пісьменнікаў Беларусі. Праз год Полацкі дзяржаўны унівэрсытэт пачаў выдаваць "Весьці Полацкага унівэрсытэту", а Полацкая нацыянальная гімназія - "Гімназічны весьнік". У 1998 годзе ў Наваполацку зьявілася адразу тры друкаваных бюлетэня: "Інфармацыйны бюлетэнь Наваполацкай Рады БНФ", "Клёк" - выданьне наваполацкіх сацыял-дэмакратаў з "Народнай грамады" і "Частный предприниматель" - выданьне Незалежнага прафсаюзу прыватных прадпрымальнікаў Полацку і Наваполацку.

**АЛЕСЬ КОЗІК.**

## ЛІТАРАТУРА



Ігар СІДАРУК

# КАЛІ ВОЎЧАЯ ПОЎСЬЦЬ ТАК ДАЛЁКА АД ЗЬВЕРА...

### Полацкая настальгія

1

Мой легкавік даўно й неадкладна патрабуе рамонту. Мая творчасьць — суцэльны затор. Мая памяць ужо забывае, што такое водар жаночае скуры. Прайшло сто гадоў, як я прыязджаў у Полацак.

2

... Чамусьці ўпарта хочацца, каб выпушчаная страла ляцела як мага вышэй. Таму й скіраванасьць: з захаду на ўсход. Дакладней, з паўднёвага захаду на паўночны ўсход. Зь Берасьцейшчыны на Полаччыну, з палявыцкае лясова-балотнае таемнасьці — на чарадзейную вазёрна-манастырскую ўлагоджанасьць.

3

Мой татэмны зьвер — Воўк. Гэта адназначна. *Полацак* й воўчая *поўсьць* гучыць для мяне як згукі аднае зьвярына-атаясамляльнае сымфоніі. "... а сам въ ночь влъкомъ рыскаше" — сказана пра Ўсяслава Чарадзея ў "Слове аб палку Ігаравым".

4

Зь дзяцінства зьбіраў камяні. Кішэні нагавіцаў, набітыя імі, часта ірваліся, і тады камяні губляліся, назаўсёды правальваючыся ў прыдарожны пыл. Полацкія камяні — згусткі касьмічнае энэргіі, пагубляне-парассыпанае ад сапліва-басаножнага дзяцінства да бяздумна-нерэальнае даросласьці. Прыехаць да не прыпасьці-не дакрануцца да аднаго зь іх — дарма прыязджаць у Полацак.

5

Неяк падчас аднаго з ад'ездаў адсюль я скіраваўся не на вакзал, а абсалютна ў іншым напрамку. Калі **нешта** дае табе *іншы* накірунак — ты заўсёды туды вернесься. Мы заўсёды паважна баімся й усхвалявана трапечам перад тым лесам, у якім мы аднойчы заблукалі. Я ня ведаю цябе, Полацак!..

6

Лес — той жа Лёс. Дзьве кропкі над пакрučастым е: шлях ад кропкі Пачатку да кропкі Канца.

7

500 кілямэтраў — тая адлегласьць, на якой сэрца яшчэ можа трымаць біяток. Хоць і пад калясальнаю напругай. Сэрца пісьменьніка — высакавольтны трансфарматар. У анамальных зонаў — найвялікшае прыцягненьне. Нармальнае прыцягваць ня можа. Прынамсі, гэткую атавістычную рэч, як літаратурнае сэрца.

8

Я быў тут самім сабою. Нават тады, калі *той начы* сказаў табе, што пісаць кніжкі — гэтак жа несур'ёзна, як усё жыцьцё спаць толькі з адной жанчынаю.

Любіць горад, як і жанчыну, як летні дождж, як дапісаны ліст развітаньня, — магчыма, не сур'ёзна таксама?..

9

*Т у т* проста ўсё яшчэ блукае па вулках ласкава-непрытульным зайчаняткам празрысты абрыс невяртальнага майго юнацтва. Вось чаму...

10

... Княскі *і г а р а в ы* паход на Полацак усё адкладваецца ды адкладваецца.

**29.07.98, КОБРЫНЬ.**

# ПАДЗЕІ КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЦЯ

**У ЦЭНТРЫ РАМЁСТВАЎ І НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КУЛЬТУРАЎ** 17 ліпеня адчынілася выстава мастакоў-рэалістаў, на якой прадстаўлена больш 80-ці твораў пяці аўтараў. У ХХ стагодзьдзі сьціраюцца межы паміж прафэсійным, самадзейным і наіўным мастацтвам. Шчымлівым лірызмам працяты творы Дзям'яна Крупені з Ушачаў. Яны нагадваюць нам аб традыцыі расейскіх мастакоў-перасоўнікаў сярэдзіны XIX стагодзьдзя. Астатнія ўдзельнікі выставы палачане. У камэрных працах Эмы Васілеўскай набывае каштоўнасьць кожны кавалачак наўкольнага сьвету: пагоркі, сьцежкі, дрэвы, лістота. І наадварот, панарамныя краявіды В.Любавіцкай сюррэальнага характару — гэта жаданьне мастака паказаць як мага больш маляўнічай прасторы прыроды. Насычанымі, зыркімі фарбамі прыцягваюць нацюрморты Аліны Мацецкай, у якіх радасьць жыцьця і замілаваньне прыгажосьцю. Працы Нестара Шухнова падкупаюць непасрэднасьцю трактоўкі вобразаў, яны як бы ілюструюць кнігу жыцьця аўтара. Творчасьць гэтага мастака можна далучыць да разьдзелу інсітнага мастацтва. Сёньня інсітнае мастацтва ўсё больш і больш прыцягвае гледача. Яшчэ напачатку XIX стагодзьдзя яно ўспрымалася як саматужнасьць. У нашыя ж дні да інсітнага мастацтва ставяцца сур'ёзна: адбываюцца шматлікія выставы і навуковыя канфэрэнцыі. Гэтак званыя "народныя мастакі-рэалісты" адкрываюць сваеасаблівы сьвет свайго бачаньня.

**ЛАРЫСА ЛЫСЕНКА.**

АЛЕСЬ ШАТЭРНІК **вядомы полацкаму гледачу з 1990 года, калі ўпершыню ў карціннай галерэі, якая разьмяшчалася ў будынку Багаяўленскай царквы (зараз яна зноў дзейнічае як храм), прайшла выстава твораў вядомых беларускіх скульптараў. У гэты год фонды ПГКМЗ папоўніліся трыма працамі Алеся Шатэрніка — "Дрыгавічы", "Крывічы", "Спрадвечнае" (усе 1984 г., шамот). Існаваў праект адаптацыі павялічанага варыянта працы "Крывічы" ў аб'ёме гарадской прасторы і ўсталяваньне скульптуры побач з музеем адной вуліцы "Шпацыр па Ніжне-Пакроўскай". На жаль, гарадзкія ўлады не знайшлі грошы на ажыцьцяўленьне гэтага праекту. Сёньня больш чым 30-гадовая творчая дзейнасьць мастака, які ўдала зьвяртаецца да гістарычных вобразаў, не абмяжоўваецца рамкамі скульптурных твораў — мастак захапіўся лірычнай паэзіяй і пэйзажным жывапісам.**

**17 ліпеня ў мастацкім салёне, які месьціцца ў будынку Музэя беларускага кнігадрукаваньня, адчынілася пэрсанальная выстава Алеся Шатэрніка "Колер, форма, слова", на якой прадстаўлены працы мастака, выкананыя ў мармуры, бронзе, шамоце, а таксама жывапісныя працы і тэксты філязофскіх і лірычных вершаў.**

Л.Л.

**ЦІКАВАЯ ВЫСТАВА** твораў віцяблянкі Ірыны Магучай адчынілася 24 ліпеня ў зале Полацкага гісторыка-культурнага музэя-запаведніка. На ёй прадстаўлены партрэты, нацюрморты, сюжэтныя кампазыцыі, выкананыя ў тэхніцы гуашы і пастэлю. Непаўторны сьвет мастачкі населены паэтычнымі вобразамі літаратурных твораў, якія майстар пераносіць прышчапляе да рэальна існуючых людзей. Гэты сьвет адчыняецца гледачу як тэатар. Ён рэальны і ў той жа час уяўны, дзе губляецца адказ на пытаньне: што ж такое ісьціна? Рухомыя кампазыцыі яе карцін захоўваюць фрагмэнтарнасьць асобных дзеяньняў, аднак супольна яны складаюць поўнае вялікае жыцьцё, з прысутнасьцю ў ім паэзіі, музыкі, тэатру.

Такі падыход у творчасьці Ірыны Магучай зьбліжае яе з "мироскуссниками" пачатку стагодзьдзя, калі мастакі найперш дамагаліся галоўнай мэты — нараджэньня прыгажосьці.

**ЛАРЫСА ЛЫСЕНКА.**

НА СЛОВЫ ПОЛАЦКАЙ ПАЭТКІ **Надзеі Салодкай напісаў тры песьні вядомы беларускі кампазытар Леанід Захлеўны: "Не хадзіце, дзеванькі, у вечарок", "Ойлю-лі", "Мой родны кутОчак". Дзьве першыя песьні ўжо запісаны на студыі ў выкананьні фальклёрнага гурта "Бяседа".**

А.К.

УЛАДЗІМЕР АРЛОЎ **у жніўні ў адзін дзень двойчы парадаваў аматараў гісторыі Полаччыны. 21-га выйшаў чарговы пятніцкі нумар газэты "Навіны" з артыкулам Арлова "Alma mater над Дзвіной", які прысьвечаны 185-м угодкам зь дня першых заняткаў у Полацкай акадэміі. Пісьменнік распавёў пра гісторыю ўзьнікненьня "другой (пасьля Віленскай) на землях былога Вялікага Княства Літоўскага і шостай па ліку ў Расейскай імперыі вышэйшай школы з унівэрсытэцкім статусам" і яе сьпешнае ліквідаваньне ўсяго праз восем гадоў дзейнасьці. У гэты ж дзень на старонках штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" было надрукавана апавяданьне пісьменьніка "Каханак яе вялікасьці", якое знаёміць чытача зь некаторымі падрабязнасьцямі прыезду імпэратрыцы Кацярыны ў Полацак у 1780 годзе. У гэтым творы Арлоў спалучыў эратычную і гістарычную тэмы, у выніку атрымалася адно з лепшых яго апавяданьняў апошняга часу.**

АЛЕСЬ АРКУШ.

**КУЛЬТУРНІЦКАЯ СПАДЧЫНА ЕЗУІТАЎ** на Беларусі ў гісторыкаў і мастацтвазнаўцаў год ад году выклікае ўсё большую цікавасьць. Як вядома, пэўны час, пакуль у Заходнім Сьвеце езуіцкі ордэн быў забаронены папам Рымскім, Полацак зьяўляўся сталіцаю братоў ордэна Езуса. Зразумела, асноўныя мастацкія і культурніцкія каштоўнасьці акумуляваліся ў Полацкім езуіцкім калегіюме і галоўнай бажніцы езуітаў у Полацку - саборы св. Стэфана. (Св. Стэфан - адзін з архідыяканаў Ерусалімскай абшчыны. Зьдзейсьненыя ім цуды і ягоныя праніклівыя словы пра Хрыста абудзілі гэткую нянавісьць да Стэфана іудзяў, што яны схапілі прапаведніка і, абвінавацілі ў супраціве закону, асудзілі ў Сынедрыёне. Закіданы камянямі, Стэфан літасьціва даравал сваім забойцам, як гэта зрабіў Хрыстос.) Віцебская мастацтвазнаўца Ларыса Міхневіч працяглы час займаецца росшукамі карцін вядомага італьянскага мастака Адраджэньня Сальватора Розы (1615-1673), якія знаходзіліся ў Полацку. У восьмым нумары часопіса "Мастацтва" зьмешчаны чарговы артыкул Л.Міхневіч прысьвечаны гэтай тэме - "Шукаць як былую ўласнасьць. (Карціна Сальватора Розы "Закамяняваньне сьвятога Першапакутніка Стэфана")". У ім шмат цікавых падрабязнасьцяў адносна лёсу карціны. Мастацтвазнаўца сьцьвярджае, што гэтую карціну (памер 4,75х2,75 м) езуіты замаўлялі славутаму майстру адмыслова для Полацка. Тут трэба ўлічыць, што папулярнасьць мастака "пры жыцьці дасягала такіх памераў, што падарунак ягонага твора французскаму каралю лічылася дастатковым, каб забясьпечыць посьпех дыпляматычных перамоваў". Лёс карціны падобны да лёсу большасьці мастацкіх каштоўнасьцяў нашай краіны. "Яна (карціна) знаходзілася ў храме да пачатку ХХ стагодзьдзя, потым была перанесена ў суседні Сафійскі сабор. У 1926 годзе карціна паступіла ў фонды Віцебскага гістарычнага музэя. У 1930 годзе яе адправілі на рэстаўрацыю ў Маскву - у Дзяржаўныя рэстаўрацыйныя майстэрні (...) Верагодна, у сярэдзіне 30-ых гадоў работа Розы вярнулася ў Віцебск. Хутка яна стала ўласнасьцю Гомельскага антырэлігійнага музэя, а ў 1939 годзе трапіла ў толькі што заснаваную Дзяржаўную карцінную галерэю БССР. Разам з фондамі галерэі твор італьянскага мастака загадкава зьнік у першыя дні вайны". Сальватор Роза галоўных герояў сваіх твораў часта маляваў з сябе. Ларыса Міхневіч паспрабавала даказаць, што і Сьв. Стэфану на полацкай карціне Роза надаў уласнае падабенства (выяваў палатна не захавалася). Л.Міхневіч знайшла ў фондах Нацыянальнага музэя дзьве карціны XVIII ст., з абліччамі Сьв. Стэфана (мастацтвазнаўца дапусьціла, што беларускія мастакі павінны былі змалёўваць сьвятога з кананічнай карціны ў Полацку). З дапамогаю параўнальнага аналізу з аўтапартрэтам мастака спэцыялістам па крыміналістыцы (А.М. Зінін - загадчык Экспэртна-крыміналістычнага цэнтра МУС Расіі) было засьведчана, што на беларускіх "Стэфанах" намаляваны Сальватор Роза.

**А.К.**

*У МУЗЭІ МАРКА ШАГАЛА ў Віцебску 19 жніўня адчынілася выстава жывапісу Аляксандра Канавалава. Працы гэтага майстра пэндзля незвычайныя, і, напэўна, незразумелыя недасведчанаму гледачу. Аднак сапраўдных аматараў выяўленчага мастацтва з Віцебску ён прыемна зьдзівіў сваім нечаканым, экспрэсіўным, філязафічным жывапісам. Канавалаў мастак індывідуальна-вобразнага сьветаўспрыманьня. Ён адлюстроўвае сьвет у выглядзе капярыстычных рытмаў, у якіх — эмоцыі, пачуцьці, настрої...*



**А.П.**

# ГІСТОРЫЯ, ЯКУЮ ЯШЧЭ ПАМЯТАЮЦЬ НАШЫ СУЧАСЬНІКІ

Сябры грамадзкай арганізацыі "Полацкая ініцыятыва" апекавалі калектыў наваполацкіх і полацкіх школьнікаў на чале з навучэнцам наваполацкага ліцэю Анатолем Паўлоўскім, якія ўдзельнічалі ў конкурсе для школьнікаў "Паўсядзённае жыцьцё ў Беларусі: 1945-1965 г.г.". Конкурс быў абвешчаны "Архівам найноўшай гісторыі" ў пачатку траўня 1998 году. На конкурс падрыхтавана дасьледніцкая праца "Гісторыя полацкага аэрадрому". У ёй былі выкарыстаны ўспаміны людзей - звычайных жыхароў горада, вайсковых лётных спэцыялістаў, якія працавалі на полацкім аэрадроме, лётчыкаў, камандзіраў лётных частак, жыхароў раёнаў, якія мяжавалі з аэрадромам, урыўкі з рукапісу кнігі "Полацкая старына" мясцовага краязнаўцы Івана Дэйніса, якую ён пісаў у 60-70-х гадох, былі знойдзены фотадакумэнты таго часу, абсьледавана мейсца былога аэрадрому. Урыўкі з гэтай працы будуць надрукаваны ў наступных нумарох "Полацкай ініцыятывы".

**В.К.**

# ЖЫВАЯ ПОВЯЗЬ ЧАСОЎ

За апошнія гады выйшла шмат кніг, прысвечаных найпадобнейшай Эўфрасіньні, ігуменьні Полацкай. Постаць беларускай асьветніцы нібыта нэрвовы вузел, у якім пераплятаюцца галоўныя гістарычныя падзеі полацкага пэрыяду станаўленьня беларускай дзяржаўнасьці. Рагнеда, Усяслаў Чарадзей, Сафійскі сабор, Спасаўская царква, Крыж Эўфрасіньні Полацкай. Пра гэтыя хрэстаматыйныя падставовыя *знакі* беларускай гісторыі ведае кожны школьнік. Аднак гістарычных ведаў недастаткова, каб адчуць сябе дзейным чыньнікам лёсаносных падзей на Бацькаўшчыне, каб зразумець повязь часу і бачыць пэрспэктыву разьвіцьця гісторыі Радзімы. Спробу аб'яднаць час Эўфрасіньні і цяперашчыну зрабілі выдаўцы кнігі "Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны" (Мінск, "Асар", 1998 г., аўтар-укладальнік Уладзімер Арлоў).




Кніга прысьвечана гісторыі Крыжа Эўфрасіньні Полацкай і кампазыцыйна разьбіта на тры часткі: "Яко луча сонечная" - пра лёс самой Патронкі Беларусі; "Крыж Майстра Богшы" - пра гісторыю Крыжа ад выпрабленьня майстрам Богшам да зьнікненьня сьвятыні ў часы другой сусьветнай вайны; "Адраджэнне сьвятыні" - пра ўзнаўленьне Крыжа берасьцейскім ювелірам-мастаком Міколам Кузьмічом. Такім чынам Уладзімер Арлоў, як сучасны летапісец, зафіксаваў чарговую старонку гісторыі Беларусі. Падзеі гэтай гісторыі адбываліся ў нас на вачох, аб іх будуць пісаць гісторыкі ў наступных стагодзьдзях. Прачытаўшы кнігу, разумееш, што той нэрвовы вузел, які завязала сьвятая Эўфрасіньня, ня ёсьць прааяваю мінулага часу — ён заўжды сучасны і да яго духовай энэргетыкі можна станоўча прылучыцца, зрабіўшы справу на карысьць Бацькаўшчыны.

З кнігі можна даведацца, што ініцыятыва аднаўленьня Крыжа зыходзіла ад Згуртаваньня Беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". Справа была даручана берасьцейскаму мастаку, які прафэсійна займаўся эмальлю, Міколу Кузьмічу. Першапачатковыя грошы на Крыж даў беларус, бізнэсоўца з Сургуту Анатоль Сілівончык, які, па даручэньні ЗБС, вёў куратарскую работу па аднаўленьню Крыжа. Хуткім часам да справы была далучана царква і сам мітрапаліт Філарэт блаславіў распачатую працу і асьвяціў майстэрню мастака. Відавочна, пра падзеі вакол аднаўленьня Крыжа можна напісаць цэлую прыгодніцкую кнігу (асабліва цікавым быў бы разьдзел пра паломніцтва майстра ў Сьвятую Зямлю да Гроба Гасподняга). Яе мог бы напісаць усё той жа Арлоў. У рэцэнзуемай жа кнізе земляк сьвятой Эўфрасіньні выступае найперш як гісторык-летапісец, а не як дасьціпны белетрыст.

Трэба таксама адзначыць, што кніга выдадзена высокай паліграфічнай якасьцю і больш падобная на альбом па мастацтву (хаця, папраўдзе, гэтую кнігу можна ўважаць й як мастацкі альбом, бо яна багата ілюстравана, да таго ж Крыж святой Эўфрасіньні акрамя духовае мае і сусьветную мастацкую каштоўнасьць). Кніга пабачыла сьвет дзякуючы рупеску й фінансавай падтрымцы актыўных сяброў ЗБС Анатоля Сілівончыка і Барыса Стука.

**В.К.**

# ПЕРШАЯ ПРЫСТУПКА ДА МАРТЫРАЛЁГУ

**(Заканчэньне. Пачатак на 2-й стар.)**

Для шырокага кола чытачоў цікавей было б пабачыць і прачытаць замест цалкам археалягічных помнікаў Давыд-Гарадка, Друцка, Копыся пра замкі Полацка, Горадні, Заслаўя, Старога Быхава, Камянца. Да нарысаў пра Любчанскі й Гальшанскі замкі добра б было дадаць больш панарамныя выявы 30-х гадоў.

Несумненную цікавасьць выклікае разьдзел пра сакральнае дойлідзтва, напісаны самой укладальніцай. Уражвае колькасьць графічных выяваў, здымкаў, замалёвак, рознабаковасьць падачы матар'ялу. Пытаньні ўзьнікаюць калі аўтарка адыходзіць ад прадмету сваіх дасьледзінаў. Гэта тычыцца тэалягічных падставаў уніі, маёмасных пытаньняў між уніятамі й праваслаўнымі, падтрымкі тых ці іншых уладамі. Адчуваецца, што на ўзроўні падсьвядомасьці падмурак расейскае гістарычнае дактрыны трывала закладзены яшчэ ў 1793 годзе М. Каяловічам. Калі храмы гвалтоўна забіраліся ў праваслаўных, дык на якой юрыдычнай падставе, ці без падставаў? Калі цягам XIX ст. каталікі "перадавалі касьцёлы" праваслаўным ці пад стайні, як пісаў у шостым нумары "Мужыцкай праўды" Кастусь Каліноўскі, дык пэўна дабраахвотна, ці не? Пэўнае карэктыроўкі патрабуе сьцьверджаньне, што ў пляне праваслаўных цэркваў ляжаў грэцкі крыж, а каталіцкіх — лацінскі. Пытаньне ня простае, і што да зямлю Беларусі, дык тут можна казаць не пра жорсткія ідэалягічныя ўстаноўкі, а пэўна пра агульнакультуральныя ўплывы, бо лацінскі крыж сустракаем у аснове праваслаўных цэркваў Спасаўскае й Мікалаеўскае ў Магілеве (XVII ст.)

Што да падзеяў часоў Паўночнае вайны. Ці не зашмат нечаканасьцяў? Нечакана 11 ліпеня 1705 г. у храме Сьв. Сафіі ў Полацку Пётар Першы забівае пяцёх сьвятароў, нечакана пасьля гэтага на царовы загад згаданая хрысьціянская сьвятыня пераўтвораная ў сховішча выбуховых рэчаваў (сапраўды, самае прыдатнае мейсца), нечакана, за дзесяць дзён да адыходу расейскіх войскаў, што тут знаходзіліся цягам пяці гадоў, царква ўзьнімаецца ў паветра, нечакана расейскімі войскамі выпалены ўвесь Віцебск. Як на мой погляд, ёсьць падставы казаць пра сыстэму.

Зразумела, пры вялікай колькасьці зьнішчаных сьвятыняў перад укладальніцаю стаяла пытаньне адбору найбольш каштоўных, адметных, унікальных. Вось тут я лічу вялікаю памылкаю адсутнасьць сярод абраных комплексу полацкага Барысаглебаўскага манастыру, бо з чатырох яго храмаў XII ст. не захавалася ніводнага. Апошнія два разбураныя падчас бальшавіцка-польскае вайны 1920 г. чырвонай артылерыяй і цалкам зьнішчаныя ў 1931-32 г.г.

Што прывяло ў захапленьне, дык гэта нарыс пра драўлянае дойлідзтва. Сапраўды, Ільінскае й Траецкае цэрквы ў Віцебску храмы нязвыклае прыгажосьці. У іхняй будове дарэчы прасочваецца адзінства традыцыяў беларускага драўлянага дойлідзтва праваслаўнага й уніяцкага. Нездарма беларускі архітэктар XX ст. Лявон Вітан-Дубейкаўскі працаваў над праектам храмаў гэткага кшталту. Таму сьведчаньнем збудаваны ім у 1929 г. драўляны Петрапаўлаўскі касьцёл у Дрысьвятах. Шчыра кажучы, пажадана мець асобную кнігу аб беларускім драўляным дойлідзтве. Даспадобы ня толькі нарыс, але й стыль сп. Габрусь — экспрэсіўны, поўны душэўнага болю, які выразна кантрастуе са стылем сп. А.Квітніцкай, такім нячулым, што нечым нагадвае працу паталягаанатама.

Разьдзел пра зьніклыя маёнткі, што напісаны сп. А.Кулагіным, грашыць недастатковасьцю інфармацыі. На Беларусі разбураных маёнткаў значна больш за колькасьць вынішчаных вёсак падчас гітлераўскіх карных акцыяў, ці ўзбуйненьня 60-70-х гадоў. Таму адбор меў быць выкананы, як узгадвалася вышэй, з улікам каштоўнасьці як архітэктурнай, гэтак і гістарычнай. Дзевяноста дзевяць адсоткаў інфармацыі чалавек атрымлівае праз зрок і найбольш апэратыўна праз вобразнае ўспрыняцьце. На жаль, вялікая частка нарысаў (Кукцічы, Ухвішча, Хадасевічы...) маюць выключна апісальны характар. Трэба мець адмысловы розум, каб паводле інвэнтара ўявіць саму сядзібу. Ня зьмешчаныя ўнікальныя сядзібы (Струнская, Братыкая, Вольская...) З погляду на раскрыцьцё архітэктуры ўзятыя не заўсёды лепшыя выявы. Прыкладам, да Панямоні лепей стасавацца б малюнак Напалеона Орды, чымсьці Юзафа Пешкі і г.д.




Пра страчанае гарадзкое асяродзьдзе грунтоўна распавядаецца ў разьдзеле сп. Ю.Чантурыі. Нязгоду выклікае, праўда, пазыцыя аўтара, які адмоўна ставіцца да разбурэньняў XX ст. і паблажліва да "рэканструкцыяў" XIX ст. Але ж савецкі вандалізм караніцца ў імпэрскае палітыцы тае пары. Трансфармацыі традыцыйнага асяродзьдзя пачаліся на ўсходзе краіны адразу пасьля інкарпарацыі ў склад Расеі і працягваліся ўжо гвалтоўным чынам пасьля 1831 г. Падчас увядзеньня рэгулярнае пляніроўкі XVIII-XIX ст.ст. нявечыліся жывыя целы гарадоў: прараzаліся новыя вуліцы, нішчыліся старыя. Пасьля ж 1831 г. пачалі зьнішчацца касьцёлы, бурыліся ратушы, вынішчаліся цэлыя гарады (Берасьце, Бабруйск). Такіх маштабных разбурэньняў карэнныя расейскія гарады не спазналі нават за часы савецкае ўлады. Паводле словаў сп. Чантурыі частка сакральных пабудоваў "перабудавалася ў стылі рэтраспэктывізму", але гэта ня стыль — гэта спроба акупацыйнага рэжыму зьнішчыць культурную адметнасьць Беларусі. Таму нельга й пагадзіцца з аўтарам наконт азначэньня першае паловы XIX ст. як "залатога веку" гарадзкой забудовы. Нельга прызнаць слушнасьць заўвагаў аб узбагачэньні сэнсавага зьместу ансамбля цэнтральнага пляцу Полацка помнікам 1812 г. Помнік меў зусім іншыя прапорцыі ў параўнаньні з касьцёлам Сьв.Стэфана, на які праектаваўся з боку вуліцы Віцебскай, і шкодзіў цэльнаму ўспрыняцьцю памянёнага храма. Аўтар сарамліва замоўчвае дзеяньні савецкай авіяцыі, што разбурыла гарадзкія цэнтры Полацку і Віцебску падчас апошняе вайны. Але чытачы мусяць ведаць аб сумерах разбурэньняў гэтых гарадоў у 1943 г. Несумненна ўвагу аматараў полацкіх старажытнасьцяў прыцягне замалёўка Полацку часоў вайны 1812 г., на якой добра відаць першапачатковыя формы полацкіх храмаў: бэрнардынскага Сьв. Ганны (да перабудовы на царкву ў 1852 г.); францішканскага Сьв. Антона (зьнішчанага ў 1862 г.); езуіцкага Сьв. Стэфана (без пярэдняга шчыта да перабудовы 30-х гадоў мінулага стагодзьдзя); дамініканскага Маці Боскай з фасадам у стылі барока. Цудоўны дакумэнт гісторыі, які не патрабуе ніякіх ідэалагізаваных тлумачэньняў.

**МІХАСЬ БАЎТОВІЧ.**

# "ВЫБАР - СПРАВА ЯНА НЯСЬМЕШНАЯ..."

***У 1998 годзе ў Беластоку выйшла анталёгія беларускай новай паэзіі 1987-1997 г.г. "Za niebokresem Europy", якую, напэўна, можна залічыць у полацкі культурніцкі актыў, як вынік дзейнасьці сяброў ТВЛ. Менавіта ў Полацку былі выдадзены паэтычныя кнігі тэвээлаўцаў Славаміра Адамовіча, Алеся Аркуша, Юрыя Гуменюка, Ігара Сідарука, Лявона Вольскага, вершы зь якіх уключаны ў анталёгію. Зборнік на адну чвэрць праілюстраваны партрэтамі паэтаў з выдадзенага ў Наваполацку ў 1991 годзе камплекта фатаздымкаў "Маладая беларуская паэзія".***

***Акрамя названых паэтаў у анталёгію ўвайшлі вершы Міхала Анемпадыстава, Галіны Дубянецкай, Адама Глёбуса, Алега Мінкіна (дарэчы, нараджэньне Мінкіна-пісьменьніка адбылося на Полаччыне), Тацяны Сапач, Людкі Сільновай, Анатоля Сыса.***

*А.А.*

Дзякуючы фундацыі польскага ўраду пабачыў сьвет зборнік перакладаў з новае беларускае паэзіі, ілюстраваны фотаздымкамі аўтараў. За каго цешыцца з гэтае нагоды больш — ці то за беларускую паэзію, ці то за польскага чытача — справа асабістага густу кожнага. Што да аўтара гэтых радкоў, дык ён схільны ўсьцешыцца за беларускіх крытыкаў, бо жанр анталёгіі дае апошнім вялікую фору.

Як і мае быць па законам складаньня анталёгіяў, рэйтынгаў ды герархій, зборнік Яна Максімюка — з інтрыгай. Увогуле, развагі, кшталту, чаму А стаіць перад В і чаму няма С, і чаму D сфатаграфаваны без капелюша, — зьяўляецца не апошнім складнікам пасьпяховасьці гэтых пачынаньняў. Дзякуючы падобным бязмальнасьцям удалыя анталёгіі дапамагаюць аматарам Паэзіі з прыемнасьцю бавіць час у дарозе. А што да крытычных водгукаў, дык гэта таксама неад'емны рытуал, анічога пэрсанальнага тут няма. Адзінае непаразуменьне можа ўзьнікнуць хіба што на тэрміналягічнае глебе. Бо паняткі "*новая* паэзія", "сучасная паэзія", "паэзія маладых" — дужа тонкія — адсюль магчымыя непаразуменьні. Зрэшты, як не кшталтуйся, але складальнік анталёгіяў заўжды рызыкуе патрапіць у становішча Дон Кіхота, які выпускае на волю катаржнікаў. Як піша Уладзімер Лобач, паэта з *найноўшых*:




Выбар — справа яна нясьмешная.
Не хвалюйся — ня кожны змог...

Дык што ж льга выявіць на падставе падборкі аўтараў дадзенага зборніку? Якія тэндэнцыі ў сучаснае беларускае паэзіі, якія высновы (калі іх трэба ўвогуле выяўляць)? Найперш, выяўляюцца асабістыя знаёмствы Яна Максімюка. Па-другое, безумоўны посьпех пакаленьня "Тутэйшых", дакладней, той ягонай часткі, што засталася вернай ідэалам прыватнай ініцыятывы — незалежнасьці ва ўсім. Такім чынам, па вялікім рахунку, гэтых паэтаў лучаць не агульныя эстэтычныя густы, а этас. Таму кожны здолее адшукаць у згаданай анталёгіі аўтара паводле собскіх паэтычных прыхільнасьцяў. Тут прадстаўленая творчасьць С.Адамовіча, М.Анемпадыстава, А.Аркуша, І. Бабкова ... далей па сьпісу.

Гэтая анталёгія — ёсьць узнагародай іхнай камунікабельнасьці ды пасьлядоўнасьці. А гэта, — як казаў адзін з герояў Дзюма-бацькі, — нямала.

**СЯРГЕЙ ШЫДЛОЎСКІ.**

**"Полацкая ініцыятыва"** - грамадзка-культурніцкі бюлетэнь.
**ЗАСНАВАЛЬНІК І ВЫДАВЕЦ** - грамадзкае аб'яднаньне "Полацкая ініцыятыва".
**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:** Алесь Аркуш (рэдактар), Міхась Баўтовіч, Мікола Ермалаеў, Тацяна Козік, Алесь Кузьмін, Ларыса Лысенка, Вінцэсь Мудроў, Сяргей Цімохаў.
Наклад - 299 асобнікаў.
Выданьне зроблена пры ўдзеле выдавецкай суполкі "Полацкае ляда", рэдакцый часопіса "Калосьсе" і газэты "Витебский курьер".
**E-mail: freelit@polotsk.unibel.by**
Надрукавана ў ППП "Спадчына Ф. Скарыны". Зак №4917.